www.nv-online.info

№ 74 (4019)

22 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА



## Беларусь становіцца мішэнню

У суботу 19 верасня на афіцыйным сайце Крамля быў апублікаваны дакумент, які можа змяніць лёс Беларусі на бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Гэта распараджэнне Уладзіміра Пуціна аб стварэнні ў Беларусі ваеннай авіябазы.

Упершыню інфармацыя аб дыслакацыі новай расійскай авіябазы пад Бабруйскам з'явілася ў 2014 годзе. З тых часоў аб тэрмінах увядзення ў строй авіябазы гучалі розныя дадзеныя. Не праліло святло на гэтае пытанне і распараджэнне расійскага прэзідэнта, якое гучыць даволі дзіўна: спачатку падпісаць пагадненне аб стварэнне авіябазы, а затым правесці перамовы.

Ваенны эксперт Аляксандр Алесін падкрэслівае, што з'яўленне любога ваеннага аб'екта цягне павышаную ўвагу. *«У выпадку з'яўлення базы ў Бабруйску адпаведныя сілы блока NATA возьмуць яе пад прыцэл,* – кажа Аляксандр Алесін. – *І калі, гіпатэтычна, разгарыцца ваенны канфлікт, то будуць выдзелены сілы і сродкі для нейтралізацыі гэтай базы. Так што, зразумела, у гэтым плане патэнцыяльная пагроза для Беларусі нарастае. Мы атрымліваем яшчэ адну мішэнь. Новую мішэнь з усімі наступствамі, якія з гэтага вынікаюць».*

Многія незалежныя эксперты лічаць, што пытанне размяшчэння расійскай ваеннай базы – гэта пытанне, якое павінна аб'яднаць апазіцыю. Бо ваенны кантынгент іншай дзяржавы, які дыслацыруецца на нашай зямлі, – гэта і пагроза бяспецы краіны, і парушэнне нейтральнага статусу. Аднак пакуль адзінай пазіцыі наконт таго, што рабіць у новай мілітарызаванай рэальнасці, сярод лідараў апазіцыі няма. Ёсць толькі заявы пратэсту і абурэння. Але на заявы, як вядома, даўно не звяртае ўвагі ні кіраўніцтва Расіі, ні кіраўніцтва Беларусі.

**Алег СНОЎ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Выборы на фоне обвала

Похоже на то, что власти не на шутку обеспокоены явкой электората на избирательные участки. На многих предприятиях проводятся идеологические собрания, на которых, считай, открытым текстом говорится, чтобы руководство вело поголовный учет проголосовавших. Чтобы как можно больше людей проголосовали досрочно. Власти обеспокоены не столько потому, что оппозиция ведет кампанию по бойкоту выборов президента Беларуси, сколько, я считаю, стремительно ухудшающимся экономическим положением в стране.

Вот статистика. По итогам восьми месяцев падение ВВП составило 3,5%. Это несколько меньше, чем прежние 4%, но помог созревший урожай. Падение промышленного производства составило 7,1%, производство сельхозпродукции снизилось на 1,4% в сравнении с аналогичным периодом прошлого года. Реальные располагаемые денежные доходы белорусского населения за январь–июль стали ниже на 5,1%. Сдают гиганты белорусской промышленности. «Белшина» произвела за восемь месяцев покрышек для грузовых автомобилей и автобусов на 40% меньше аналогичного периода 2014 года. БелАЗ произвел карьерных самосвалов в два раза меньше, МАЗ сделал грузовиков – всего 40% от выпущенных за восемь месяцев прошлого года. Не лучше обстоят дела у МТЗ: тракторов произвели на 38% меньше. В производстве телевизоров вообще завал: 25,6% от прошлогоднего выпуска за январь–август.

На многих предприятиях идет сокращение персонала. На «Атланте», например, за полтора года «оптимизировали» 1700 человек. Если крупные предприятия «оптимизируются», то менее масштабные стоят перед перспективой закрытия. Это и гомельский завод химических изделий, и «Гидроусилитель» в Бобруйске, и многие другие, которые дышат на ладан. Так, под банкротство попал когда-то известный витебский «КИМ». Все это во многом следствие однобокой ориентации наших предприятий на российский рынок, который скукоживается под гнетом экономических санкций Запада на фоне низких мировых цен на нефть.

Как известно, в августе произошла очередная обвальная девальвация белорусского рубля. За месяц белорусский рубль обесценился к мировым валютам на 17–20%. При сокращении на четверть экспорта количество рублей в обращении не уменьшается. В августе банковская система потеряла 10% срочных рублевых вкладов населения. Удельный вес валютных вкладов достиг 80%. Тем не менее Нацбанк продолжает давить на коммерческие банки, заставляя снижать процентные ставки на рублевые депозиты. Еще в июне он рекомендовал банкам снизить ставки на краткосрочные депозиты до 26% годовых. Ручное управление ставками на депозитном рынке не только сохраняется, но и усиливается.

В свои активы белорусское правительство записывает лишь положительное сальдо торгового баланса, которое в январе–июне составило 1,2 млрд долларов (и то за счет более глубокого падения импорта), и то обстоятельство, что удалось ликвидировать разрыв между ростом зарплаты и производительностью труда. Но это проще сделать, когда падают оба показателя. Сегодняшняя зарплата белорусов в долларовом эквиваленте в районе 400 «зеленых», или 96% от российской, которая также обвалилась. Реальная зарплата россиян в августе уменьшилась в годовом измерении на 9,8%.

На этом фоне властям ничего не остается лучшего, как строить предвыборную пропаганду на таких постулатах, как: не требуйте, белорусы, роста зарплат, держитесь лучше за свои рабочие места, а то будет так, как в Украине. Значит, будем стабильно тонуть вместе с экономикой России, и здесь не видно просвета. В мире нет никакого экономического кризиса. Мировая экономика растет ежегодно более чем на 3%. Российский, а вместе с ним и белорусский народ стали заложниками одного человека по фамилии Путин. Мало ему Украины, он, чтобы лишний раз доказать свою геополитическую значимость, впутывается еще в одну нескончаемую войну – в Сирии. Поэтому возможности российского донора для стран ЕАЭС убывают с каждым днем. Но белорусская экономика без кредитов России быстро придет к своему концу. Страшась развала Евразийского экономического союза, Россия скорее всего удовлетворит заявку Беларуси на предоставление кредита на сумму 3 млрд долларов от Евразийского банка развития. По политическим причинам переговоры с ЕАБР, думается, стали носить формальный характер. Его глава даже намекнул, что кредит, надо полагать, с учетом тяжелейшего положения экономики Беларуси, поступит уже к концу этого года.

Так стоит ли удивляться тому, что белорусские власти очень сильно беспокоит явка избирателей на выборах 11 октября?

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Каб не было ніякіх доказаў

Назіральнікі на прэзідэнцкіх выбарах змогуць карыстацца прыладамі відэа- і аўдыязапісу толькі з дазволу выбарчых камісій. Гэта вынікае з адказу кіраўніка Цэнтрвыбаркама, атрыманага рухам «За Свабоду» ў адказ на свой зварот.

У адпраўленым 15 верасня звароце рух «За Свабоду», які мае намер вылучыць больш за 200 назіральнікаў за правядзеннем прэзідэнцкіх выбараў, цікавіўся іх правам мець пры сабе і карыстацца фотаапаратурай, тэхнікай для відэа- і аўдыязапісу, а таксама аптычнымі прыстасаваннямі. Арганізацыя хацела высветліць, ці атрымаюць назіральнікі такую магчымасць, ці будзе гэта рэгламентавацца нейкімі афіцыйнымі дакументамі або інструкцыямі Цэнтральнай камісіі.

У адказе за подпісам Лідзіі Ярмошынай адзначаецца, што ў арт.13 Выбарчага кодэкса ўтрымліваецца вычарпальны пералік паўнамоцтваў асоб, якія з'яўляюцца назіральнікамі. *«Такім чынам, названыя вамі дзеянні выходзяць за межы нарматыўных прадпісанняў названага артыкула. Задавальненне просьбы назіральніка аб вядзенні фота-, відэаздымкі, а таксама аўдыёзапісу з'яўляецца правам, але не абавязкам выбарчай камісіі»,* – гаворыцца ў адказе.

Што да спецыяльных аптычных прыбораў, то Ярмошына падкрэсліла, што «іх выкарыстанне для ажыццяўлення назірання на ўчастку для галасавання выбарчым заканадаўствам не прадугледжана». Іншымі словамі, і ў бінокль бюлетэні для галасавання назіральнікі не пабачаць.

*(Працяг тэмы "Выбары-2015" чытайце на стар.3.)*

СІТУАЦЫЯ

## Хто сказаў, што ківі ў Беларусі не растуць?



http://novostipmr.com

Дзівосы дый толькі. У Беларусі не вырошчваюць ківі, а наша краіна за год столькі паставіла гэтай садавіны ў суседнюю краіну, што стала найбуйнейшым экспарцёрам ківі ў Расійскую Федэрацыю.

Пра гэты вельмі цікавы факт паведаміла расійскае ТАСС са спасылкай на дадзеныя агенцтва FruitNews. Прычым у паведамленні агенцтва прыводзіліся і іншыя лічбы паспяховага экспарту садавіны з Беларусі ў Расію. Па некаторых пазіцыях наша краіна нарасціла пастаўкі аж у 2 разы. Так, у прыватнасці, з жніўня 2014 года па ліпень 2015-га Беларусь завезла ў Расію 672,1 тысячы тон садавіны. Пастаўкі груш павялічыліся ў 2,84 раза, яблыкаў – на 96%, цытрусавых – на 60%, костачкавых (абрыкосы, персікі, вішня, сліва) – на 103%. Пры гэтым з 53 тысяч тон завезеных у Расію ківі 10 тысяч экспарціраваў беларускі бок.

Зразумела, што тлумачыцца гэты факт вельмі проста: пасля ўвядзення Расіяй эмбарга на ўвоз фруктаў і іншых прадуктаў з краін Еўрасаюза расійскім пастаўшчыкам прыйшлося шукаць абхадныя шляхі, каб давозіць да пакупніка дэфіцытны тавар. І з таго часу, як харчовыя санкцыі дзейнічаюць, "Россельхознадзор" не раз лавіў на беларуска-расійскай мяжы забароненыя яблыкі, слівы, таматы. Звычайна гэта былі прадукты з краін ЕС, але па дакументах яны праходзілі як тавар з Турцыі, Македоніі і г.д.

Як ставіцца да сітуацыі з ківі? З гумарам і павагай да вынаходлівасці некаторых беларусаў, якія знайшлі шляхі, каб пастаўляць у Расію ківі з Беларусі ці ўсё ж такі лічыць гэта звычайнай кантрабандай?

З расійскага боку, дарэчы, гнеўных каментарыяў ад высокапастаўленых чыноўнікаў альбо прадстаўнікоў "Россельхоз-надзора", як гэта было раней, не гучала. Выказалася толькі дырэктар агенцтва FruitNews, якое распаўсюдзіла інфармацыю пра пастаўкі садавіны з Беларусі, **Ірына Козій**: "*З улікам традыцыйнай расійскай карупцыі найбольш простым рашэннем стала стварэннне мелкіх кампаній-аднадзёнак, якія спецыялізуюцца на пастаўках прадукцыі па серых схемах праз трэція краіны. Такія як Беларусь, Сербія".*

Беларускі эканаміст **Леанід Злотнікаў** лічыць, што з беларускага боку ніякай кантрабанды няма.

– Мы сапраўды гародніны і садавіны пастаўляем у Расію шмат, – выказвае меркаванне эканаміст. – Але інфармаваныя крыніцы паведамляюць, што гэта ўсё ж такі не кантрабанда, гэта транзіт праз Беларусь грузаў тых краін, якія расійскія санкцыі не закранулі. Не толькі ківі, але і іншая экзатычная садавіна трапляе ў Расію праз нашу мяжу. Расіянам гэта выгадна.

**– А нам?**

– Выгадна асобным фірмам, якія на гэтым рээкспарце зарабляюць. А для краіны выгада адносная. Канешне, падаткі паступаюць у бюджэт ад транзіту тавару па нашай тэрыторыі. Але калі апрацоўчая прамысловасць страціла канкурэнтаздольнасць, на рээкспарце ківі краіну не падымеш.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЭКАНОМІКА

## Варажба на нафце

Урад Расіі рыхтуецца да падзення цаны на нафту да 30 долараў за барэль. Прапановы адносна прагнозу коштаў нафты ў 2016 годзе ўрад збіраецца прадставіць прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Уладзіміру Пуціну ўжо сёння, 22 верасня, паведамляе РБК са спасылкай на ўрадавыя крыніцы.

Расійскія ведамствы, праўда, не сышліся ў прагнозе коштаў нафты. Міністр фінансаў **Антон Сілуанаў** прапанаваў падрыхтаваць стрэс-сцэнарый макрапрагнозу на 2016 год, зыходзячы з цэн на нафту 30–35 долараў за барэль. Аднак ёсць і іншыя ацэнкі: паводле версіі міністра эканомікі Расіі **Аляксея Улюкаева,** негатыўны сцэнарый – не ніжэй 40 долараў за барэль, паводле версіі Цэнтральнага банка Расіі – 35 долараў за барэль.

У выніку стрэс-сцэнарый развіцця расійскай эканомікі рыхтуецца, зыходзячы з таго, што нафта будзе каштаваць 35–40 долараў за барэль. А што Беларусь? Якія прагнозны кошт нафты закладзены ў наш праект закона аб бюджэце на 2016 год?

Як высветлілася, у беларускіх эканамічных ведамствах сядзяць вялікія аптымісты. Наш бюджэт на будучы год разлічаны з таго, што сярэднегадавы кошт нафты маркі Urals будзе каштаваць 70 долараў за барэль. Папера, як кажуць, усё сцерпіць, толькі дзе будзем браць грошы?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

НАДВОР'Е

## Верасень яшчэ парадуе

На гэтым тыдні верасень яшчэ парадуе цёплым і камфортным надвор'ем. Сярэдняя тэмпература паветра чакаецца на 3–)6 градусаў вышэй за норму.

У аўторак 22 верасня пераважна без ападкаў. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +3...+9°С, на тарфяніках Палесся месцамі замаразкі да 0...-1°С, максімальная днём +14...+20°С.

У сераду 23 верасня пераважна без ападкаў. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +3...+10°С, па паўднёвым захадзе месцамі да +12°С; максімальная днём +18...+25°С.

У другой частцы працоўнага тыдня па перыферыі антыцыклону ў краіну пачне паступаць больш цёплая, але вільготная паветраная маса з Чорнага мора, якая прынясе ў асобныя раёны кароткачасовыя дажджы і навальніцы. Ноччу і раніцай месцамі слабы туман.

У чацвер 24 верасня тэмпература паветра чакаецца мінімальная ноччу +9...+15°С, максімальная днём +21...+26°С, па паўднёвым усходзе да +28°С.

У пятніцу 25 верасня захаваецца прыкладна такі ж тэмпературны рэжым: мінімальная ноччу +9...+16°С, максімальная днём +21...+26°С, па паўднёвым усходзе да +28°С.

У выхадныя дні прагназуецца няўстойлівы характар надвор'я.



ПІКІРОЎКА

## Мясніковіч скажа на любым узроўні...

Уладзімір Пуцін некаторы час таму даручыў сваім урадоўцам вывучыць магчымасць паскарэння ўвядзення адзінай валюты ў краінах Еўразійскага эканамічнага саюза. У Беларусі навіна была ўспрынята без энтузіязму.

*"У Еўразійскім эканамічным саюзе нельга рабіць валютны (фінансавы) саюз без пераадолення існуючых у саюзе бар'ераў",* – заявіў старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч.

Мясніковіч адзначыў, што спачатку трэба прайсці ўсе этапы зняцця бар'ераў: у гандлі таварамі, паслугамі, на рынку працы. *«Потым ужо мы прыходзім да фінансавага саюза. А калі гэта зрабіць цяпер, я на любым узроўні скажу, што гэта пагроза суверэнітэту»,* – заявіў ён.

ЗДАРЭННЕ

## У самалёце Мінск–Рым адбылася разгерметызацыя

Аварыйная сітуацыя склалася з авіярэйсам Мінск–Рым 21 верасня. Як паведамляе сайт МНС, у 11.18 ратавальнікам паступіла паведамленне, што ў самалёце магчымы праблемы з герметычнасцю салона.

Ратавальнікі накіравалі ў аэрапорт тэхніку і брыгады ўрачоў. Службы аэрапорта таксама былі гатовы рэагаваць на пазаштатную сітуацыю. У 12.05 самалёт паспяхова прызямліўся. Пацярпелых, на шчасце, няма.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Нелюди

В Гомельском областном суде вчера состоялись прения в рамках процесса по обвинению двух жителей Гомеля в убийстве (ст.139 УК) и оставлении в опасности (ст.159 УК) собственных малолетних детей.

Напомним, в январе 2015 года в подъезде дома в областном центре был найден брошенный новорожденный мальчик. Милиция занялась розыском его родителей, но поиски привели к другой страшной находке: в запертой квартире было обнаружено мумифицированное тело трехмесячной малышки. Жертва пролежала в квартире восемь месяцев: ее бросили в мае 2014 года, а тело нашли в январе 2015-го.

Все это время биологические родители трехмесячной Снежанны (Виолетта, 1983 года рождения, и Максим, 1979 года рождения), которые оставили девочку умирать, бродяжничали.

Гособвинитель Юлия Конопелькина на суде заявила, что родители умышленно оставили Снежанну без присмотра, будучи уверенными, что без кормления и ухода она умрет. Поэтому гособвинитель попросила суд приговорить обоих по двум статьям в совокупности к 20 годам лишения свободы.

После прений последнее слово было предоставлено Виолетте. Плача, она сказала: «Я признаю, что оставила детей, мне не надо было это делать. Прошу, не судите меня строго, не давайте мне такое большое наказание». На 30 сентября назначено последнее слово Максима, затем, возможно, будет вынесен приговор.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ: «Запраста адціскаюся ад падлогі 20 разоў»



*Днямі праслаўленаму беларускаму спартсмену, трохразоваму алімпійскаму чэмпіёну па вольнай барацьбе Аляксанду Васільевічу Мядзведзю споўнілася 78 гадоў. У размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" імяніннік распавёў пра сваё стаўленне да ўзросту, пра тое, як звычайна адзначае дзень народзінаў, і пра тое, хто яго натхняе па жыцці.*

**– Аляксандр Васільевіч, дазвольце павіншаваць вас са святам і пажадаць усяго самага найлепшага! Раскажыце, калі ласка, як адзначылі чарговы дзень народзінаў?**

– Яшчэ ніяк. У сам дзень народзінаў, 18 верасня, мой мабільны тэлефон проста разрываўся – віншаванняў было вельмі шмат. Павіншавалі нават некаторыя дэпутаты, даслаўшы святочныя паштоўкі. Былі званкі з усёй Беларусі: з Мінска, Гомеля, іншых гарадоў... Што казаць – прыемна!

**– А сямейнае свята было?**

– Не, яно запланавана на 28-е чысло. Збяромся вузкім сямейным колам, толькі родныя і блізкія. Верасень у нашай сям'і багаты на дні народзінаў. У гэтым месяцы нарадзіўся і мой сын, і ўнук. Як будзем святкаваць? З сям'ёй – гэта адно, але ж у мяне шмат вучняў, калег па працы – з імі заўсёды на свае імяніны хаджу ў лазню. Гэта традыцыя – як закон. А пасля лазні абавязковы рытуал – піццё халоднага піва.

**– Аляксандр Васільевіч, многія недалюбліваюць уласны дзень народзінаў, асабліва з узростам. А ваша стаўленне да гэтай даты за жыццё змянілася?**

– Праўду кажуць, што стаўленне да гэтай даты мяняецца з кожным пражытым годам. Я не выключэнне. Я сказаў бы, што з гадамі стаўленне да гэтага дня робіцца больш філасофскім...

**– Азіраючыся назад, вам грэх скардзіцца. Столькі ўсяго зроблена!..**

– Ведаеце, вось у мяне пытаюцца: на колькі гадоў ты сябе адчуваеш? Не буду хлусіць, што на васямнаццаць ці дваццаць, але быў бы я крыху маладзейшы – запраста ўзяў бы зборную Беларусі па вольнай барацьбе як галоўны трэнер. Ёсць яшчэ што перадаць і чаму навучыць спартсменаў. Карацей, ірвуся ў бой!

**– А што вас натхняе па жыцці зараз?**

– У маім выпадку не што, а хто. Гэта дзве мае цудоўныя праўнучкі – Мая і Каця. У сямейным коле мы іх называем "балерынка" і "кучаравінка". Вось гэта і ёсць маё самае галоўнае натхненне ў жыцці. Зараз праўнучкі на адпачынку ў Грэцыі, але іх віншаванняў я чакаў больш за ўсё. Яны і патэлефанавалі: "Дзядуля, мы цябе віншуем!" Па-дзіцячы шчыра, адкрыта і цёпла. Дзеля такіх слоў варта жыць, паверце.

**– Не магу не запытацца ў вас як у спартсмена: фізічную форму падтрымліваеце?**

– Канечне, а як жа без гэтага?! Штодзённыя фізічныя практыкаванні – гэта норма. І ад падлогі рэгулярна адціскаюся. Лёгка магу гэта зрабіць два дзясяткі разоў.

**– У свой час вы напісалі кнігу "Усё жыццё – барацьба". Аляксандр Васільевіч, прызнайцеся: што для вас было самым цяжкім і складаным у жыцці?**

– Я так вам скажу: пакуль мы жывыя, нічога цяжкага і непераадольнага ў жыцці няма. Усё можна выправіць. Мой жыццёвы дэвіз: "Ніколі не здавацца – і тады ўсё атрымаецца". І я хачу, каб мяне пачулі маладыя спартсмены, якія пасля няўдач, бывае, вешаюць нос і ставяць на сабе крыж. У любой сітуацыі трэба рухацца наперад. Жыццё любіць упартых людзей, якія працай і настойлівасцю дабіваюцца свайго. Такім жыццё абавязкова аддзячыць.

**Гутарыў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### Даведка «Народнай Волі»

***Жыццёвы шлях Аляксандра Васільевіча Мядзведзя багаты на падзеі, засяродзімся на больш значных з іх.***

**Аляксандр Мядзведзь:**

– трохразовы алімпійскі чэмпіён (1964, 1968, 1972);

– сяміразовы чэмпіён свету (1962–1963, 1966–1967, 1969–1971);

– трохразовы чэмпіён Еўропы (1966, 1968, 1972).

На цырымоніі адкрыцця Алімпіяды-1972 Аляксандр Мядзведзь нёс сцяг СССР.

З 1970 года ў Мінску праходзіць Міжнародны турнір па вольнай барацьбе на прызы А.Мядзведзя. У 1994 годзе турніру прысвоена катэгорыя "Гран-пры".

У 2001 годзе прызнаны лепшым спартсменам Беларусі ХХ стагоддзя.

У 2004 годзе на цырымоніі адкрыцця Алімпіяды ў Афінах быў сцяганосцам зборнай Беларусі.

У 2005 годзе быў прызнаны лепшым барцом вольнага стылю ў гісторыі спорту і ўведзены ў Залу славы Міжнароднай федэрацыі аб'яднаных стыляў барацьбы (FILA).

У 2012 годзе ў Мінску адкрыўся Палац барацьбы імя Аляксандра Мядзведзя.

КОЛОНКА ЮРИСТА



*На вопросы читателей «Народной Воли» отвечает юрист правозащитного центра «Правовая помощь населению» (г.Киев, Украина) Анатолий ПОПОВ.*

## Как вернуть долг?

***Дал взаймы знакомому деньги, договор займа удостоверен нотариусом. Прошли сроки, но он долг не возвращает. Как мне действовать дальше? Кто и на каких условиях совершает исполнительную надпись? Существуют ли сроки для предъявления исполнительной надписи к принудительному исполнению?***

**Александр Бобровский, Минск.**

Исполнительная надпись – это учиненная нотариусом или другим уполномоченным органом надпись на документах, подтверждающая требования о взыскании денежных сумм или о передаче другого имущества.

В соответствии с законом, исполнительные надписи о взыскании денежных сумм (задолженности) с должника по заявлению взыскателей совершают нотариусы при условии, что представленные документы соответствуют законодательству Республики Беларусь и подтверждают бесспорность задолженности должника перед взыскателем. Также должник должен проживать на территории РБ, и со дня возникновения права на иск должно пройти не более трех лет.

В случае признания исполнительной надписи как исполнительного документа взыскателю необходимо обратиться в отдел принудительного исполнения по месту жительства должника для возбуждения исполнительного производства, в рамках которого и будет взыскана задолженность с должника, в том числе и когда предметом займа была валюта.

## Подавайте частную жалобу

***Судья в определении указала несуществующую норму закона, видно, что это описка. Как отменить это определение?***

**Максим Козловский, Брест.**

Данное определение суда не может быть законным, так как содержит несуществующую норму права. Вам следует в течение десяти дней подать частную жалобу на определение суда в Брестский областной суд, которая будет рассмотрена в месячный срок. Однако имейте в виду, что жалоба не приостанавливает принятые по определению меры по обеспечению исполнения исполнительного документа.

## Судебные расходы не взыскиваются

***Что необходимо указать в исковом заявлении в суд о признании родственника недееспособным, и каков в этой ситуации размер госпошлины?***

**Ирина Петкевич, Минск.**

В заявлении о признании гражданина недееспособным должны быть изложены обстоятельства, свидетельствующие об умственном расстройстве, вследствие которого лицо не может понимать значения своих действий или руководить ими (ч.4 ст.373 Гражданско-процессуального кодекса). Достаточными данными о душевной болезни или слабоумии гражданина являются, в частности, сведения, содержащиеся в выписке из истории болезни, справке о состоянии на учете и лечении в психиатрических лечебных учреждениях, свидетельстве об инвалидности в связи с психическим заболеванием и т.п. В заявлении, как правило, указывается, что лицо не обслуживает себя, не контролирует свои действия (уходя из дома, без необходимости оставляет зажженный газ, включенные электроприборы и т.п.).

Судебные расходы по такой категории дел с заявителя не взыскиваются.

## Решение можно обжаловать

***Решение суда об уменьшении размера алиментов, которые платит бывший муж на ребенка, были направлены по прежнему месту моего жительства, и я пропустила сроки обжалования. С этим решением я не согласна, могу ли я сейчас его обжаловать?***

**Алина Саладовская, Минск.**

Из представленных вами судебных документов видно, что вы пропустили срок обжалования по уважительной причине. В этой связи вам необходимо подать кассационную жалобу с заявлением о восстановлении срока для кассационного обжалования.

Кассационная жалоба подается в суд, вынесший решение, и рассматривается вышестоящим судом. Заявление о восстановлении срока подается в суд, вынесший решение, и им же рассматривается (в суд приглашаются обе стороны). Только таким образом вы можете защитить права несовершеннолетнего ребенка.

## Мера не применима

***В каких случаях нельзя в качестве меры по обеспечению исполнения судебного решения ограничить должника в праве управлять автомобилем? На какой срок и каким органом устанавливается такое ограничение?***

**Максим Липский, Брест.**

Такая мера не применяется в случае, если должник инвалид и нуждается в автомобиле, а также в ситуации, когда автомобиль – единственное средство получения доходов.

Ограничение в управлении транспортным средством устанавливается судом до исполнения обязательств, но не более чем на пять лет (ст.482 Гражданско-процессуального кодекса).

ПРАБЛЕМА

# Для каго гуляюць нашы футбалісты?




Задаць самому сабе гэтае пытанне прымусіў чарговы поспех барысаўскага БАТЭ. Каманда з беларускага райцэнтра ў чарговы раз выйшла ў самы прэстыжны клубны еўрапейскі турнір – Лігу чэмпіёнаў УЕФА. І ў Барысаў у чарговы раз прыедуць гранды еўрапейскага футбола – "Барселона" з бліскучым Месі, італьянская "Рома" з феерычным Даніэле дэ Росі і леверкузенскі "Баер", які ў першым туры катком прайшоўся па беларусах.

Хочацца сказаць дзякуй Анатолю Капскаму – сапраўднаму футбольнаму фанату, таленавітаму спартыўнаму менеджару, які ўзняў каманду з трэццялігавага беларускага небыцця да еўрапейскіх футбольных вышынь.

Айчынны заўзятар па-добраму разбэшчаны цудоўным еўрапейскім футболам. І, як вынік, матчы БАТЭ на еўраарэне выклікаюць непадробную цікавасць. Таму маю ўвагу ў гэтай сітуацыі прыцягваюць не галы-ачкі-секунды, а антураж, дакладней – білетны ажыятаж вакол матчаў барысаўскай каманды.

Напрыклад, білетныя пакеты на хатнія матчы барысаўчан размялі, як гарачыя піражкі на чыгуначым вакзале, – яны не праляжалі ў касах і сутак. Хапіла, безумоўна, не ўсім. Нехта з іх нават апелюе да кіраўніцтва БАТЭ, патрабуючы патлумачыць схему рэалізацыі квіткоў. І зараз людзі, якія не здолелі купіць запаветныя квіткі "на Месі", гатовы значна пераплаціць, каб патрапіць на стадыён. Сацыяльныя сеткі ў літаральным сэнсе напоўнены аб'явамі падобнага зместу: "Куплю білет на "Барселону" за любыя грошы". На некаторых інтэрнэт-сайтах нават праводзяцца апытанні наконт таго, колькі аматары футбола гатовы заплаціць за лігачэмпіёнскі білет на БАТЭ.

Канечне, заўзятарскі ажыятаж вакол гульні беларусаў – гэта добра і правільна. Але тут я хацеў бы звярнуць увагу на іншае: пры бітком набітых трыбунах на еўраматчах мы назіраем абсалютна супрацьлеглую карціну на матчах унутранага першынства краіны. Перафразіраваўшы радок вядомай песні, можна сказаць: "На трыбунах становіцца пуста..."

Чаму балельшчык не ідзе глядзець матч унутранага першынства? Чаму няма ажыятажу вакол умоўнага матча мазырскай "Славіі" і бабруйскай "Белшыны"? Чаму заўзятары не шукаюць лішні квіток на такія матчы? Як вярнуць балельшчыка на трыбуны?

Напэўна, чытаючы гэтыя радкі, заўзятары са стажам узгадаюць, што ў свой час паход на стадыён "Дынама" быў сапраўдным святам і для таго, каб пабачыць гульню мінскага "Дынама" пад кіраўніцтвам, безумоўна, лепшага беларускага трэнера Эдуарда Малафеева, ім прыходзілася займаць чэргі ў касы з самага ранку, яшчэ задоўга да адкрыцця кас. Толькі куды што падзелася? Нехта скажа, што часы зараз іншыя і футбол іншы – не такі шчыры, які быў пры Малафееве. І ён будзе мець рацыю. Футбол не той, чэмпіянат не той. Але пры гэтым ён наш, беларускі! Іншага ў нас пакуль няма.

"Футбол – не спорт нумар адзін у Беларусі", – сказаў нядаўна трэнер нашай нацыянальнай зборнай Аляксандр Хацкевіч. Безумоўна. Аляксандру Лукашэнку больш даспадобы хакей. Але не віна Аляксандра Рыгоравіча, што беларусы не ідуць на трыбуны глядзець гульні свайго чэмпіянату.

Напэўна, у першую чаргу над пытаннем заахвочвання беларускага балельшчыка павінны думаць у федэрацыі футбола краіны. А што мы маем? Яскравы паказчык цікавасці заўзятараў да ўнутранага першынства – сярэдняя колькасць балельшчыкаў на матчы. Лічбы смехатворныя, несуцяшальныя. Прывяду толькі некаторыя з іх. Сярэдняя наведвальнасць матчаў 10-га тура айчыннага першынства склала 1750 балельшчыкаў, 13-га – 1120 (гэта быў антырэкорд сёлетняга першынства), у 16-м туры на трыбунах у сярэднім было 1523 чалавекі, у 19-м – 1804 чалавекі.

Пры гэтым статыстыка сведчыць яшчэ і аб тым, што ў параўнанні з мінулым сезонам сярэдняя наведвальнасць матчаў сезона-2015 знізілася ажно на 17,6% у параўнанні з чэмпіянатам-2014. Так і хочацца запытаць: для каго гуляюць нашы футбалісты?

Я не ведаю, што дакладна можна зрабіць для вяртання балельшчыкаў на трыбуны, але на месцы піяр-менеджараў айчынных клубаў паспрабаваў бы заманіць заўзятара на стадыён матэрыяльна: "Кожнаму, хто прыйдзе, – значок, бірульку, келіх з сімволікай нашага клуба..." Напэўна, трэба больш крэатыўна падыходзіць да балельшчыка.

А пакуль мы маем кволую рэкламу матчаў айчыннага чэмпіянату ў метро і на тэлебачанні. І яшчэ не заўжды адэкватную рэакцыю роднай міліцыі на заўзятараў. Колькі ўжо пісалася пра неабгрунтавана жорсткае стаўленне людзей у пагонах да футбольных фанатаў! І пасля гэтага нічога дзіўнага, што калісьці адданыя заўзятары адвярнуліся ад каманд, адкрыта байкатуючы гульні.

Калі мы сыходзім з таго, што футбол у першую чаргу для балельшчыка, дык і падыход да заўзятараў павінен быць адпаведным.

**P.S. А што думаеце на гэты конт вы, паважаныя чытачы? Як вярнуць заўзятара на трыбуны? Калі ласка, пішыце, прапаноўвайце, выказвайцеся.**

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**





СПЯШАЙЦЕСЯ БАЧЫЦЬ!

# Пяць дзён цудоўнага кіно

З 28 верасня цягам пяці дзён у сталічным кінатэатры «Перамога» будуць паказваць нямецкія фільмы ў межах праграмы «Вечары нямецкага кіно: 25 гадоў уз'яднання Германіі».

Мінчукі ўбачаць пяць стужак, знятых у апошнія 15 гадоў. Пачатак сеансаў – у 19.00. Уваход будзе вольны, праўда, за гадзіну да сеанса жадаючыя мусяць прыйсці ў кінатэатр і ўзяць запрашальнік. Стужкі будуць ісці на нямецкай мове з рускімі субцітрамі.

Фільмы распавядаюць пра жыццё і роздумы жыхароў ГДР напярэдадні падзення Берлінскай сцяны.

Паказы пачнуцца з карціны «Жыццё іншых» рэжысёра Фларыяна Хенкеля фон Донерсмарка, які ў 2007 годзе атрымаў «Оскар» як лепшы фільм на замежнай мове. У стужцы распавядаецца пра папулярнага пісьменніка



і драматурга Георга Драймана, які заводзіць раман з вядомай тэатральнай актрысай. І ў жыцці Драймана з'яўляюцца спецыялісты са спецслужбаў.

29 верасня гледачам прапануецца фільм «Барбара» Крысціяна Петцольда – сярэбраны прызёр «Берлінале-2012». Дзеянне адбываецца ў 1980 годзе. Дзяўчына вырашае, ці збягаць ёй з ГДР. Але ўсё ўскладняе каханне і недавер да навакольнага свету.

30 верасня будуць круціць «Знаёмства з Цукерамі» Дані Леві. Галоўны герой у свой час перабраўся ў ФРГ. Ён рос без маці і не прызнае сваё яўрэйскае паходжанне. Але з-за завяшчання маці ён рашаецца на прымірэнне з раднёй і робіць з гэтага фарс.

1 кастрычніка мінчане ўбачаць стужку «Паўночны вецер» Роберта Тальхайма 1988 года. Сёстры з ГДР едуць у спартыўны лагер на возера Балатон у Венгрыю. Там яны знаёмяцца з цікавымі хлопцамі. І адна з сясцёр нават рашаецца на ўцёкі.

Завершыць серыю нямецкіх фільмаў 2 кастрычніка стужка «Берлін, горад у Германіі». У час, калі падае Берлінская сцяна, галоўны герой сядзіць у турме Брандэнбурга. Калі ў 2000 годзе ён вызваляецца, то бачыць абсалютна новае жыццё. Ён спрабуе знайсці сваю сям'ю і сяброў.

ЧУЛІ?

# У Лунінецкім раёне паспеў другі ўраджай клубніц і малін



Цёплае надвор'е дазваляе жыхарам раёна збіраць другі ўраджай у сезоне. Ягады прадаюць на скрыжаванні дарог ля клубнічнай сталіцы – вёскі Дварэц Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Літровы слоік клубніц каштуе столькі ж, колькі і першыя ягады ў чэрвені. За літровы слоік першасортных клубніц просяць 30 тысяч рублёў, малін – 20 тысяч.

УСМІХНІЦЕСЯ!

*– Вы лічыце, што наша жыццё пагаршаецца? Што цэны скачуць угару, як блохі, а заробкі, наадварот, зніжаюцца... Усё не так дрэнна! Часцей глядзіце Беларускае тэлебачанне – там наша жыццё выглядае казкай!..*

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15074

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.09.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №3558.